*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 30(138) ◈ 28 ліпеня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## Усім арганізацыям Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

Першага верасня г. г. — трэція ўгодкі з дня прыняцця Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь. З гэтага ж дня 1993 года ўводзяцца ў дзеянне арт. 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35 Закона.

Друкуем змест названых артыкулаў і просім правесці пэўную работу па аказанні практычнай дапамогі ў іх ажыццяўленні кіраўнікам устаноў, прадпрыемстваў і інш. арганізацый. Паведамляйце нам, што зроблена арганізацыяй ТБМ у гэтым напрамку.

Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны.

### АРТЫКУЛЫ ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ЯКІЯ ЎВОДЗЯЦЦА Ў ДЗЕЯННЕ З 1-ГА ВЕРАСНЯ 1993 г.

**Артыкул 11. Мова дакументаў аб статусе грамадзян Беларускай ССР**

Афіцыйныя дакументы, якія сведчаць статус грамадзяніна,— пашпарт, працоўная кніжка, дакументы аб адукацыі, пасведчанні аб нараджэнні, шлюбе, а таксама дакументы аб смерці асобы выконваюцца на беларускай і рускай мовах, а асобныя дакументы пры неабходнасці — на беларускай і іншай мове.

**Артыкул 27. Мова ў сферы навукі**

У Беларускай ССР вынікі навукова-даследчых прац афармляюцца на беларускай мове, а з улікам іх прызначэння — на рускай мове.

Выканаўцы навукова-даследчых прац могуць выбіраць мову публікацый навуковых вынікаў.

**Артыкул 28. Мова ў сферы культуры**

У Беларускай ССР мовай у сферы культуры з'яўляецца беларуская мова. Гарантуецца таксама захаванне і развіццё культуры на мовах прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць у рэспубліцы.

З мэтай шырокага азнаямлення грамадзян рэспублікі з дасягненнямі культуры народаў СССР і сусветнай культуры Беларуская ССР забяспечвае пераклад і выданне на беларускай мове мастацкай, палітычнай, навуковай, вучэбнай і іншай літаратуры, вытворчасць і паказ фільмаў і аўдыявізуальных твораў.

**АРТЫКУЛ 29. Мова сродкаў масавай інфармацыі**

У Беларускай ССР мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі з'яўляецца беларуская мова.

Мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі могуць таксама быць руская мова і мовы іншых нацыянальнасцей.

**Артыкул 31. Мова аб'яў і паведамленняў**

Тэксты афіцыйных аб'яў, паведамленняў, плакатаў, афіш, рэклам і да т. п. выконваюцца на беларускай мове. Побач з беларускім тэкстам можа быць змешчаны яго пераклад на іншую мову.

**Артыкул 32. Мова маркіроўкі тавараў**

Маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі аб карыстанні таварамі, зробленымі ў Беларускай ССР, выконваюцца на беларускай мове.

Маркіроўка тавараў на вываз за межы Беларускай ССР выконваецца на беларускай, рускай мове або на мове заказчыка.

Назвы ў таварных знаках даюцца на беларускай мове.

**Артыкул 35. Мова асабовых імён**

Беларускія асабовыя імёны і прозвішчы ўжываюцца адпаведна нацыянальнай іменаслоўнай традыцыі і законам беларускай мовы.

Асабовыя імёны і прозвішчы з іншых моў пішуцца і ўжываюцца на беларускай мове адпаведна правілам перадачы іншамоўных імён.

*Патрыятычнае выхаванне*

## ПАГРАНІЧНІК І РОДНАЯ МОВА

Апошнім часам «Наша слова» неаднаразова друкавала матэрыялы, што асвятлялі няпросты, нялёгкі працэс пашырэння беларускасці ў армейскіх калектывах нашай рэспублікі, якія зараз перажываюць напружаны перыяд свайго станаўлення. І справа не толькі ў тым, што ўжо не існуе адзінай Савецкай Арміі, што большасць яе часцей і злучэнняў, размешчаных на тэрыторыі Беларусі, атрымалі прынцыпова новы статус — Узброеныя сілы самастойнай дзяржавы. Гэты складаны працэс хвалюе і непакоіць перш-наперш таму, што яго вынікі павінны адказаць на пытанне: «Ці стварылі мы мабільнае і баяздольнае, нацыянальна свядомае, адданае Беларусі войска?» Сёння кожны, відаць, разумее, што без такога войска дзяржаўны суверэнітэт у сучасных умовах — пусты гук. Не зважаючы на мноства перашкод, на непаслядоўнасць і нават крокі назад пры вырашэнні мноства праблем беларусізацыі арміі, станоўчыя зрухі да лепшага ў войску ўжо цяпер відавочныя. Так, у адпаведнасці з загадам Міністэрства абароны, з усім асабовым складам Узброеных сіл са студзеня гэтага года рэгулярна праводзяцца заняткі па роднай мове і па гісторыі Беларусі, распрацоўваецца беларускамоўная вайсковая тэрміналогія, робяцца іншыя захады па шляху будаўніцтва нацыянальнага войска.

Пра гэта, дарэчы, грамадзяне рэспублікі з розных крыніц (газеты, радыё, тэлебачанне) маюць даволі шырокую інфармацыю.

Але ж людзі ў пагонах — гэта не толькі салдаты, прапаршчыкі і афіцэры, падначаленыя Міністэрству абароны рэспублікі. Да вайскоўцаў належаць таксама беларускія пагранічнікі, якія хоць колькасна значна саступаюць арміі, але выконваюць не менш адказную задачу, ахоўваючы недатыкальнасць дзяржаўных межаў Бацькаўшчыны. Праўда, пра тое, чым жывуць зараз нашы воіны-пагранічнікі, грамадскасць яшчэ інфармавана недастаткова. Разпораз у друку мільгануць паведамленні аб чарговым затрыманні на мяжы кантрабандыстаў, аб занятках па беларускай мове на заставах — вось, па сутнасці, і ўсё. Відаць, пакуль спрацоўвае звыклая заслона сакрэтнасці, якая непазбежна спадарожнічала пагранічнай службе доўгія дзесяцігоддзі, калі тая з'яўлялася войскамі ўсемагутнага КДБ.

Аб ходзе бягучай выхаваўчай работы сярод беларускіх пагранічнікаў амаль нічога не ведалі і журналісты. Таму ў «Нашым слове» з вялікай цікавасцю прачыталі наступную карэспандэнцыю з Полацкага раёна (друкуецца поўнасцю):

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!

Я не думаю, што пытанне, з якім я звяртаюся да Вас, здасца Вам дзіўным. На старонках Вашай газеты я чытала аб тым, што ў пагранічных вайсках уведзена абавязковае вывучэнне беларускай мовы. Урокамі, надрукаванымі ў «Нашым слове», я карысталася, калі праводзіла заняткі ў пагранічнай часці, у якую мяне запрасілі выкладаць беларускую мову. І цяпер мяне ўсё больш непакоіць пытанне: ці правільна было зроблена, калі было прынята рашэнне аб вывучэнні мовы ў гэтых часцях? Не, я зусім не супраць таго, каб мову ведалі, валодалі беларускай мовай. Наадварот! Але тое, як тут адносяцца да заняткаў, толькі прыніжае яе (мову). Не ведаю, на які ўзровень пастаўлена гэтае пытанне ў іншых месцах, але тут... Мне крыўдна. Я ўжо адмаўлялася ад працы, угаварылі вярнуцца. І хоць цяпер я вырашыла, што справу не кіну, хоць на заняткі будуць хадзіць 2-3 чалавекі, усё ж хацелася б ведаць:

*Заканчэнне на с. 2, 3.*

### ПОСТУП ТЫДНЯ

**ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЕРЫКІ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЛА** дзяржаўная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам. Падпісаны шэраг дакументаў, якія маюць двухбаковую зацікаўленасць.

◆

**У ВАЛОЖЫНЕ ПРЫ МАЎКЛІВАЙ ЗГОДЗЕ МЯСЦОВЫХ УЛАД** знесены помнік архітэктуры пачатку XX стагоддзя — драўляны дом па вуліцы Горкага, на якім не было нават шыльды, што будынак ахоўваецца дзяржавай.

◆

У краіне функцыяніруе 20 мытняў і 51 мытны пост, на якіх нясе службу амаль чатыры тысячы чалавек.

◆

**ПРЫКЛАДНА ПАЛАВІНА ВУЧНЯЎ У ШКОЛАХ РЭСПУБЛІКІ Ў НОВЫМ НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ БУДЗЕ ВУЧЫЦЦА НА РОДНАЙ МОВЕ.** Першыя класы ў новым навучальным годзе выйдуць на ўзровень патрабаванняў Закона аб мовах, а гэта азначае, што 75—80 працэнтаў вучняў будуць вучыцца на беларускай мове. 67 працэнтаў школьнікаў будуць вучыцца на роднай мове ў другім і крыху менш — у трэцім класе. А калі ж гэта будзе 100 працэнтаў?

*Рэха!*

## «Веснік БДУ» і далей будзе двухмоўны

**Намесніку старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны ТРУСАВУ А. А.**

Прапанова Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, выказаная Вамі ў лісце ад 14.05.93 № 20-3/646, у далейшым выдаваць навукова-тэарэтычны часопіс «Веснік БДУ» толькі на беларускай мове абмеркавана на нарадзе адказных рэдактараў усіх серый часопіса 8 чэрвеня 1993 г. Адзначана, што ў апошні час рэдакцыя і рэдакцыйныя калегіі «Весніка», які па сутнасці з'яўляецца міждзяржаўным выданнем, ажыццяўляюць вялікую і мэтанакіраваную работу па яго пераарыентаванні пераважна на беларускую мову, нягледзячы на тое, што часопіс зарэгістраваны як двухмоўны. Так, першы нумар IV серыі (філалогія, журналістыка, педагогіка, псіхалогія) выдадзены поўнасцю на беларускай мове. У другім нумары III серыі (гісторыя, філасофія, паліталогія, сацыялогія, эканоміка, права) амаль 40 % артыкулаў будуць таксама апублікаваны на матчынай мове. Што тычыцца першай і другой серый (фізіка, матэматыка, механіка, хімія, біялогія, геаграфія), то мы будзем ўдзячна вітаць артыкулы па гэтых навуках на беларускай мове. Аднак працэс пераходу часопіса на беларускую мову стрымліваецца адсутнасцю ўнармаваных тэрміналагічных слоўнікаў амаль па ўсіх навуках. Мы будзем вельмі ўдзячны Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны за дапамогу ў выданні такіх слоўнікаў. Але трэба адзначыць, што артыкул 27 Закона аб мовах, міжнародныя пагадненні гарантуюць права навукоўцаў самім вызначыць мову публікацый. Большасць навукоўцаў-прыродазнаўцаў настойвае, каб іх матэрыялы публікаваліся толькі на рускай мове. У адваротным выпадку яны пагражаюць друкаваць іх у іншых выданнях, што можа прывесці да закрыцця I і II серый часопіса.

Вядома, што руская мова з'яўляецца пакуль што адной з прызнаных моў міжнародных зносін, таму часопіс, які знаходзіцца ў цяжкім фінансавым становішчы, не можа дазволіць сабе адмовіцца на дадзеным этапе ад замежных падпісчыкаў і замкнуцца толькі ў межах Беларусі. Да таго ж нашымі аўтарамі нярэдка з'яўляюцца аспіранты і навукоўцы-стажоры з Кітая, В'етнама, Германіі, арабскіх, афрыканскіх і іншых замежных краін, якія валодаюць толькі рускай мовай.

У мэтах узняцця міжнароднай цікавасці да часопіса вырашана, пачынаючы з другіх нумароў I і II серый, друкаваць анатацыі і змест на англійскай мове.

У адказ на «факты», якія абыгрывала газета «Наша слова», трэба адзначыць наступнае: вытворчы цыкл часопіса займае каля 6 месяцаў. Нумары, пра якія ідзе размова ў артыкуле, рыхтаваліся яшчэ ў 1992 г. Натуральна, рэктарат, рэдакцыя і рэдкалегіі серый не могуць пагадзіцца са зневажальнай ацэнкай накіраванасці часопіса як супярэчнай інтарэсам рэспублікі і беларускага народа.

Ф. М. КАПУЦКІ,
рэктар, член-карэспандэнт АН РБ.

*Погляд беларуса з замежжа*

# Хто паважае сябе, таго і людзі паважаюць

Даўно сачу за дыскусіяй пра двухмоўе ў Беларусі, і іншым разам становіцца прыкра і балюча. А нядаўняя сустрэча ўжо тут, у Канадзе, з добрай знаёмай, расейкай з Беларусі, гэтыя пачуцці яшчэ абвастрыла. Мая знаёмая жыла ў Менску і працавала ў Політэхнічным інстытуце (цяпер акадэміі). Яна з захапленнем распавядала мне, як выкладчыкі выдатна абыходзіліся расейскай мовай. А што да беларускай, сказала, то навошта яна? Гэта ж усяго толькі... дрэнны дыялект стараарасейскай мовы, ён не патрэбны, бо ёсць жа «прекрасный и могучий русский язык». Перакazваю ўсё гэта не дзеля таго, каб падкрэсліць глупства суразмоўніцы. Якраз дзяўчына яна разумная, але вось выхавана адпаведным чынам. Дарэчы, яна нават не адмаўляе беларусам у незалежнасці, абгрунтоўваючы гэта тым, што Беларусь нарэшце перастане... смакчы кроў з «бедной России».

Не буду дыскутаваць на тэму, хто з каго кроў смактаў, бо ў гэтым пытанні кожны лічыць сябе пакрыўджаным, а вось аб мовах маю жаданне сказаць. Спадзяюся, што братам-беларусам будзе цікава ведаць меркаванне суродзіча з Канады.

Уважліва вывучаючы ўсю інфармацыю, якая трапляе да нас у Канаду, так і не магу зразумець, з'яўляецца ўсё ж Беларусь незалежнай краінай ці не? Уражанне такое, што, хутчэй, не. Каб гэта было іначай, нават самога пытання пра двухмоўе не паўстала б.

Дзякуючы Богу, я быў сведкам нацыянальнага адраджэння летувіскай і латвійскай нацыяў. Не згаджаючыся з парушэннямі правоў чалавека ў Латвіі, усё ж магу зразумець нацыю, якая на сваёй зямлі стала нацыянальнай меншасцю і з таго знаходзіцца ў вялікай трывозе. Таму так цяжка вырашаецца там пытанне аб грамадзянстве. У Летуве ж этнічная сітуацыя куды лепшая — карэнная нацыя налічвае там, як і ў нас, 80 працэнтаў насельніцтва. Вось чаму летувісы далі грамадзянства ўсім, хто на той час там жыў і хацеў яго атрымаць. Але адначасова прынялі «Закон аб дзяржаўнай мове», згодна з якім кожнаму, хто хоча надалей працаваць на кіруючай пасадзе, быў дадзены пэўны тэрмін на вывучэнне дзяржаўнай мовы. Добра памятаю, колькі коп'яў напачатку было паламана ў спрэчках, як паграджалі страйкамі і г.д. Цяпер, калі прайшло больш за два гады (ці ўсяго два, ужо можна падвесці некаторыя вынікі. Справаводства цалкам перайшло на дзяржаўную мову. Ну, а тых, хто ўсё ж спрабуе парушаць закон, не толькі штрафуюць, але звальняюць з пасады і нават судзяць, як якіх-небудзь злачынцаў. Жорстка? Вядома. Але інтарэсы ўмацавання нацыянальнай дзяржавы дзеля агульнай карысці ўсяго народа патрабуюць гэтага. Бо, скажам, тут, у Канадзе, жыве нямала кітайцаў. Тым не меней, ім у галаву не прыйшла думка ўвесці ў Канадзе кітайскую мову ў якасці яшчэ адной дзяржаўнай. І гэта пры тым, што па-кітайску размаўляе кожны чацвёрты чалавек у свеце, а не кожны трыццаты, як па-расейску. Ды кітайцы разумеюць, што для гэтага ёсць Кітай, і не спрабуюць недзе з-за сваёй большасці іграць ролю «старшего брата».

Пра беларусаў кажуць, што яны сціплыя ды гасцінныя. Але гэта не падстава для нацыянальнай «сціпласці» ўрада. Бо занадта вялікія страты. Вось прыняты быў Закон аб мовах. Больш за два гады прайшло, а зрухаў адчувальных не бачна. «Звышінтэрнацыянальныя» чыноўнікі як уладарылі, так і працягваюць гэта рабіць зусім не на карысць нацыянальнай дзяржавы.

Дзіву даешся, як расейцы, якія карыстаюцца гасціннасцю беларускага народа, маюць непрыхаванае нахабства павучаць гаспадароў і як трэба жыць, і якой мовай карыстацца. Іхняй! Ну, можна яшчэ зразумець, калі які-небудзь швед ці немец дасць парады, бо ў іх хоць жыццёвы ўзровень высокі, жывуць, як людзі. А расейцы? Няхай яны спачатку ўнутры ўласнай краіны парадак навядуць. А то ж Расія з хвіліны на хвіліну можа сама разваліцца, як гнілая бульба. Што да жыццёвага ўзроўню, то мяркую, ён усім вядомы. І багацце прыродных рэсурсаў не дапамагае, калі ладу няма.

Я не вораг расейцам. Я шаную расейскую літаратуру і мастацтва. Але хацелася б, каб і расейцы, якія жывуць у Беларусі, таксама з павагай і пашанай адносіліся да яе культуры, якую ніяк нельга замяніць іншай без шкоды для нацыі. Ды і вершы Багдановіча, Купалы, Коласа не горшыя за вершы Пушкіна, Лермантава, Фета. А беларуская проза не менш цікавая, чым расейская. Ці творы Уладзіміра Караткевіча чытаюцца з меншым захапленнем, чым раманы Пікуля? А цыкл раманаў «Гараватка» беларускага эмігранцкага пісьменніка Кастуся Акулы, на мой погляд, нават лепшы за ваенную прозу Васілія Бялова. Бо зусім праўдзівыя. Ды напісаныя чалавекам, сэрца якога рассекла балючая крыўда за сваю абрабаваную, зґвалтаваную і зруйнаваную Бацькаўшчыну, у якой нават мову адабралі прыхадні.

Я не супраць таго, каб у Беларусі друкаваліся расейскамоўныя газеты і часопісы ці выходзілі расейскамоўныя кніжкі. Але выходзіць яны павінны ў колькасці, адпаведнай саставу насельніцтва,— да 20 працэнтаў ад агульнай. І не варта гасцям спрабаваць класці ногі на стол гаспадара. Нічога добрага з гэтага не атрымаецца.

І апошняе пытанне да пракурора Беларусі: чаму адкрыта дзейнічаюць такія рухі, як «Белая Россия», «Славянский собор» і іншыя, якія наогул адмаўляюць беларусам у праве на незалежнасць і па сутнасці займаюцца дыверсіямі? Можа, варта, не саромячыся, павучыцца, як паступаюць у такіх выпадках іншыя суверэнныя краіны?

**Раман КАРДОНСКІ.**
г. Таронта (Канада).

# Было б толькі жаданне

Я рускай. Але Беларусь стала для мяне другой радзімай. Тут — сям'я, любімая праца. На ўсё жыццё я палюбіла чароўны Менск, незвычайны па дабрыні беларускі народ, незабыўныя краявіды Меншчыны. Часта дводзіцца чуць, што, маўляў, беларускую мову немэтазгодна ўводзіць, што размаўляць на ёй цяжка, а ў сталыя гады без усталяванай звычкі нават немагчыма.

Магу сцвярджаць, што гэта не так, было б толькі жаданне і пачуццё адказнасці за адраджэнне культуры народа, сярод якога жывеш. Гэта ў першую чаргу залежыць ад педагогаў, выхавацеляў маладога пакалення. Нядаўна і я вырашыла як след авалодаць беларускай мовай. Гэтаму садзейнічалі два гады навучання ў калегіуме беларускай мовы і культуры, створаным настаўніцкім камітэтам «Думка» пры ТБМ на базе сярэдняй школы № 23 Савецкага раёна г. Менска.

Заняткі сталі для нас сапраўдным адкрыццём гісторыі і культуры Беларусі, а беларускую мову ўсе мы палюбілі назаўсёды. Вучыліся тут прадстаўнікі розных нацыянальнасцей. Усе мы някепска навучыліся размаўляць і пісаць па-беларуску, паспяхова выканалі заліковыя заданні і атрымалі адпаведныя пасведчанні. У першую чаргу мы вельмі ўдзячны арганізатару і кіраўніку заняткаў спадарыні Але Кажэры, якая вельмі добразычліва і творча падыходзіла да заняткаў. Дзякуй, што ёсць такія адданыя беларускаму нацыянальнаму адраджэнню людзі.

Магу засведчыць з уласнага вопыту, што беларускай мове можна навучыцца ўсім. Было б толькі жаданне! Я — навучылася. Нават і ў газету пішу па-беларуску.

**Ніна ШКРЭД,**
**выхавацель дзіцячага садка № 426.**

г. Менск.

# Такі вось плён

**Чуткі аб мэтавай фінансавай дапамозе гарадскіх улад гомельскай «Талацэ» былі крыху перабольшаны. Ці то сума ў 90 тыс. рублёў аказалася занадта вялікая для гарадскога бюджэту, ці супрацоўнікі палітычны стэрэатып «беларушчына — значыць апазіцыя», але чарговае пасяджэнне гарвыканкама адхіліла прапанову сваёй адпаведнай камісіі аб выдзяленні абяцанай сумы. Тым не менш, супрацоўніцтва гомельскай «Талакі» з мясцовымі ўладамі працягваецца.**

Сяржук ВІНАГРАДАЎ.



# Грошык такі: у ім два бакі

**З дазволу гарвыканкама фірма «Віцына» каля месяца назад адчыніла ў Бабруйску казіно. На сесіі гарсавета дэпутаты адмянілі рашэнне сваіх калег з выканкама, бо палічылі, што знаходжанне казіно ў памяшканні тэатра імя Дуніна-Марцінкевіча не да гонару гардскім уладам.**

**Але, як кажуць, грошык такі: у ім два бакі. Рашэнне бацькоў горада пазбавіла працоўнага месца 60 супрацоўнікаў казіно.**

Ігар КУТАЛОЎСКІ.

# Весткі з Віленшчыны

* * *

**У Доме настаўніка г. Вільні адбыўся сход беларусаў, на якім абмяркоўваліся пытанні вучобы ў ВНУ і тэхнікумах Літвы і Беларусі (прысутнічалі вучні старэйшых класаў, іх настаўнікі і бацькі). Гаворка ішла таксама пра беларускае Адраджэнне ў Літве. Складзены план работы ТБМ, прыняты «Пастанова» і «Зварот».**

* * *

**На каталіцкую Тройцу (Сёмуху) у Вільні адбылося асвячэнне першай аднолеглай капліцы з тых, што былі знішчаны ў гады «воинствующего атеизма». Віленская Кальварыя, або так званы Літоўскі Ерусалім, дзе адбылася ўрачыстасць, вядома веруючым з даўніх часоў. Сюды ішоў просты люд з усіх куткоў Беларусі. Падчас асвячэння капліцы богаслужэнне вялося на лацінскай, літоўскай і польскай мовах.**

* * *

**Пад пагрозай закрыцца беларускае аддзяленне ў Віленскім педагагічным універсітэце. Не хапае сродкаў на яго фінансаванне.**

# ПАГРАНІЧНІК

*Заканчэнне.*

*Пачатак на с. 1.*

рашэнне аб вывучэнні мовы (пагранічнікамі) было прынята ўсур'ёз ці так, для «галачкі»? Полацкі раён. Марыя Міхайлаўна САФРОНАВА.

Дзякуем за Ваш шчыры, усхваляваны ліст, шаноўная Марыя Міхайлаўна. Прыемна знаёміцца з дописам чалавека, чыя душа баліць за ўсё сапраўды беларускае. А вось прыкрыя факты, аб якіх Вы паведамілі, занепакоілі. Хоць падпалкоўнік В. Трафіменка з Полацкага пагранічнага атрада ў тэлефоннай размове з супрацоўнікамі рэдакцыі абгрунтавана растлумачыў малалюднасць заняткаў па беларускай мове зразумелымі спецыфічнымі асаблівасцямі службы пагранічнікаў (асабовы склад канцэнтруецца не ў гарнізонах, ён рассыпаны на невялікія групы, якія вядуць пастаяннае баявое патруляванне, і г.д.), мы ўсё ж вырашылі звярнуцца ў Галоўнае Упраўленне пагранічных войск пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, каб высветліць: ці вывучаюць родную мову нашы пагранічнікі — «усур'ёз ці... для «галачкі»», як увогуле ажыццяўляецца патрыятычнае выхаванне беларускіх пагранічнікаў?

Копія згаданага ліста спадарыні М. Сафронавай была перададзена ў адзін з аддзелаў Галоўнага Упраўлення, дзе нас запэўнілі, што выкладзеныя там факты будуць неадкладна правераны. Затым карэспандэнт газеты меў гутарку з начальнікам аддзела Упраўлення падпалкоўнікам Г. Войнавым і афіцэрам гэтага аддзела маёрам І. Мальцам. Пагранічнікі, у прыватнасці, паведамілі, што іх войскі яшчэ толькі фарміруюцца. Раней на тэрыторыі БССР існавала тры пагранічныя атрады і падраздзяленне забеспячэння. З абвяшчэннем дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь было прынята рашэнне аб стварэнні яшчэ некалькіх пагранічных атрадаў, якія б ахоўвалі нашу мяжу не толькі з Захаду, як гэта было ў часы СССР. Дарэчы, Полацкі пагранічны атрад, аб хібах у занятках па беларускай мове ў падраздзяленнях якога ідзе гаворка ў лісце нашай чытачкі,— якраз адзін з наваствораных. Адпаведна павялічыцца (прыкладна да 12—14 тысяч) і колькасны склад пагранічных войск Беларусі. Летась нашы пагранічнікі выведзены з падначалення КДБ і непасрэдна падпарадкаваны Сауміну. Кіраўніцтва пагранвойск рэспублікі тады ж прыйшло да высновы, што без вывучэння роднай мовы, беларускай гісторыі і культуры ахоўнікам межаў нашай дзяржавы не абысціся. Да слова, афіцэры аддзела, як і падпалкоўнік з Полацкага пагранічнага атрада В. Трафіменка, цалкам пагадзіліся з думкай карэспандэнта газеты, што мяжа любой суверэннай краіны пачынаецца не толькі з дзяржаўнага герба і сцяга за пагранічным слупком, а і з дзяржаўнай мовы гэтай краіны, бо дзяржаўная мова — абавязковы сімвал і атрыбут дзяржаўнай існасці.

З дырэктыў Галоўнага Упраўлення пагранічных войск, з якімі азнаёмілі карэспандэнта, вынікае, што камандаванне ўсведамляе прынцыпова новую ролю пагранічнікаў рэспублікі ў сучасных умовах і робіць шмат, каб беларускасць паступова пашыралася ў нашых пагранічных атрадах і на заставах. У прыватнасці, у адным з дакументаў, паводле якога зараз вядзецца выхаваўчая работа ў пагранічнікаў (надпісаны камандуючым пагранічнымі войскамі генералам Я. Бачаровым), адзначаецца: «Кіруючыся Законам... аб мовах, прынятым XIV сесіяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 26 студзеня 1990 г., з 1 студзеня 1993 г. у пагранічных войсках... з усімі катэгорыямі вайскоўцаў уводзіцца... вывучэнне беларускай мовы».

*Аўген КАЛУБОВІЧ*

# «Свабода, свабода і яшчэ раз свабода!»

*(Раздзелы з кнігі «На крыжовай дарозе»)*

*Пачатак у №№ 12, 13.*

## «Саюз вызвалення Беларусі»

Арышты па справе «Саюза вызвалення Беларусі» пачаліся ў лютым 1930 г., калі быў арыштаваны «контррэвалюцыйны паэта» Нічыпар Чарнушэвіч, аўтар кніжкі вершаў «Дзіва» (1927 г.). Дасягнуўшы да найбольшае меры ў ліпені месяцы, яны працягваліся да канца года. Хваля арыштаў ішла па галоўных цэнтрах і асяродках беларускае навукі, асветы і мастацтва ў Менску (Беларуская Акадэмія навук, Беларускі дзяржаўны універсітэт, пісьменніцкія арганізацыі «Полымя», «Узвышша» і БелАПП, Народны камісарыят асветы, Беларускі дзяржаўны музей, Архіў, І Беларускі дзяржаўны тэатр), у Горках (Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія), у Віцебску (Ветэрынарны інстытут), у Магілёве (Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР) і г. д. Усе арыштаваныя па-за Менскам прывезеныя ў Менск.

Колькі ўсіх арыштавана, ніхто дакладна не ведаў. Агульна называлася лічба — да 200 асоб. Таксама, як і хто канкрэтна арыштаваны. Часам былі памылкі: прафесары універсітэта А. Вазнясенскі (1921—30 гг.) і А. Ясінскі (1922—30 гг.) то арыштаваныя, то не. Пазней выяснілася, што ім, як і ў 1926 г. праф. М. Доўнар-Запольскаму, проста прапанавалі, каб яны самі пакінулі БССР. Іх не пасадзілі за краты мо дзеля таго, што першы з іх, апрача даследавання паэтыкі М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа і інш., даследаваў і расейскую літаратуру; а другі — даследчык паходжання беларускага народа і аграрнай гісторыі Беларусі — быў сябрам не толькі Беларускай, а Чэшскай адэміі навук. Аднойчы ў камерах турмы прайшла пагалоска, нібы арыштаваныя Я. Купала і Я. Колас. Аднак гэта не пацвердзілася. Хто ж арыштаваны? Вылічыць усіх немажліва, таму ў нас тут названыя толькі тыя, пра каго нам лепей было вядома, з некаторымі пазнейшымі дадаткамі і ўвагамі. Арыштаваныя былі:

## Былыя дзяржаўна-палітычныя дзеячы БНР

Др. **Іван Серада.** Старшыня І Усебеларускага Кангрэса ў Менску ў 1917 годзе. Першы прэзідэнт Рады БНР (31.XII.1917 — 14.V.1918 гг.), прэм'ер Урада БНР (верасень-лістапад 1918 г.). У часе арышту — дацэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, куды выехаў з Менска ў 1929 г.

Акад. **Язэп Лёсік,** дзядзька Якуба Коласа. Адзін з лідэраў БСГ, пасля расколу яе ўлетку 1918 г. — Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі. За нацыянальна-рэвалюцыйную дзейнасць у 1905 г. быў першы раз арыштаваны, а ў 1911 г. сасланы ў Сібір, скуль вярнуўся ў Беларусь у 1917 г. Рэдактар БНРаўскіх газет «Вольная Беларусь» (1917—1918 гг.) і «Беларусь» (1920 г.). Старшыня Выканаўчага Камітэта Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый і партый (ліпень—кастрычнік 1917 г.) і Вялікай Беларускай Рады (кастрычнік—снежань 1917 г.), якая склікала І Усебеларускі Кангрэс. Прэзідэнт Рады БНР (14.V.1918—13.XII.1919 г.). У БССР — сябра Інбелкульта і рэдактар ягонага навукова-літаратурнага органа «Адраджэньне», 1922 г. (сканфіскаванага цэнзураю і закрытага на № 1). Дырэктар Інстытута навуковай мовы БелАН, выкладчык БДУ (1921—1930 гг.). Па ягоных падручніках граматыкі і правапісу беларускай мовы вучылася ўся БССР.

Акад. **Вацлаў Ластоўскі.** Адзін із заснавальнікаў у 1902 г. БСГ, ад 1919 г. — сябра ЦК Беларускай партыі эсэраў. Прэм'ер Урада БНР у канцы 1919—пач. 1923 г. Былы сябра рэдкалегіі «Наша Ніва», рэдактар газеты «Гоман» (Вільня, 1916—17 гг.), адзін з рэдактараў-выдаўцоў часопіса «Крывіч» (выдаваўся ў 1923—27 гг. у Коўне). У 1927 г. пераехаў з Летувы ў БССР. Дырэктар беларускага дзяржаўнага музея ў Менску, загадчык катэдры этнаграфіі і неадменны сакратар БелАН. Беларускі гісторык, этнограф, лексікограф, літаратуравед і пісьменнік. Аўтар «Кароткай гісторыі Беларусі» (1910 г., Вільня), першай хрэстаматыі старажытнага беларускага пісьменства (1918 г., Вільня), «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» (1926 г., Коўна), колькіх беларускіх слоўнікаў і шматлікіх іншых прац з гісторыі Беларусі і этнаграфіі.



**Год 1933-і. БАМлаг. А да гэтага Аўгену Калубовічу ўжо давялося зведаць бальшавіцкія канцлагеры на Далёкім Усходзе і Паўночным Урале.**

Праф. **Аляксандр Цьвікевіч.** У травені 1917 г. разам з А. Гаруном, які толькі што вярнуўся з сібірскай ссылкі, беларускім гісторыкам Ф. Туруком і Я. Васілевічам заснаваў у Маскве і па іншых уцякацкіх асяродках Расеі Беларускую Народную Грамаду. На І Усебеларускім Кангрэсе сябра ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў. Старшыня Надзвычайнай дыпламатычнай місіі БНР у Кіеве ў 1918 г. Міністр юстыцыі і замежных спраў Урада БНР (1918—23 гг.), прэм'ер Урада БССР у эміграцыі (1923—25 гг.). У 1926 г. вярнуўся з эміграцыі ў БССР. Навуковы сакратар Інбелкульта (1926—27 гг.), сябра БелАН (1929—30 гг.), выкладчык БДУ, гісторык, аўтар кніг «Беларусь» (1919 г., Берлін), «Беларускае адраджэньне і Польшча» (1921 г., Берлін), «Западнорусcизм. Нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX стст.» (1929 г., Менск) і іншых публікацый.

Акад. **Аркадзь Смоліч.** Адзін із кіраўнікоў БСГ і рэдактар ейнага органа «Грамада» (1917 г., Менск). Сябра БНК у Менску ў 1917 г. Міністр асветы і земляробства ў першых кабінетах Урада БНР. Заступнік старшыні Інбелкульта (1925—27 гг.) і загадчык катэдры геаграфіі ў ім. Праф. БДУ. Аўтар (з праф. М. Азбукіным) першае геаграфіі Беларусі і прац з гісторыі Беларусі.

Адвакат **Лявон Заяц.** Сябра БНК у Менску ў 1917 г. Дзяржаўны сакратар 1-га кабінета Урада БНР, міністр трох іншых кабінетаў. Прадстаўнік Урада БНР у Нямеччыне. У 1929 г. (разам з А. Цьвікевічам і У. Пракулевічам) вярнуўся з эміграцыі ў БССР.

Адвакат **Уладзімір Пракулевіч.** Сябра ЦК Беларускай партыі эсэраў, старшыня Рады Случчыны і кіраўнік антысавецкага Слуцкага паўстання ў 1921 г. Дзяржаўны сакратар эміграцыйнага Урада БНР (1923—25 гг.).

Др. **Павел Трамповіч.** Сябра Надзвычайнай дыпламатычнай місіі БНР у Кіеве ў сакавіку 1918 г. Пасол БНР да Усевялікага Войска Данскога (1918 г.). Сябра Інбелкульта (заступнік старшыні Рады Аддзела прыроды і гаспадаркі, кіраўнік доследаў курортных мясцовасцяў у БССР Камісіі вывучэння вытворчых сіл БССР). Навуковы супрацоўнік БелАН і выкладчык БДУ.

Інжынер-эканаміст **Аляксандр Галавінскі.** Пасол БНР да Украінскай Народнай Рэспублікі (1918 г.). Старшыня Беларускага Нацыянальнага Згуртавання ў Летуве. У 1927 г. з В. Ластоўскім вярнуўся з эміграцыі ў БССР. Сябра Інбелкульта і навуковы супрацоўнік БелАН.

Акад. **Сцяпан Некрашэвіч.** Відны сябра Беларускай партыі эсэраў. Консул БНР у Адэсе (1918—19 гг.). Заснавальнік і першы старшыня Інбелкульта (1922—25 гг.). Кіраўнік аддзела гуманітарных навук і загадчык катэдры жывой беларускай мовы ў ім (1926—28 гг.). Віцэ-прэзідэнт БелАН (1929 г.). Аўтар першых беларускіх падручнікаў у БССР («Лемантар», літаратурныя чытанкі «Роднае слова», ч. 1 і 2), моваэнаўчых прац і (разам з М. Байковым) двух слоўнікаў беларускай мовы.

Праф. **Янка Краскоўскі.** Сябра БНК, Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый і партый і Вялікай Беларускай Рады ў Менску. Сябра БНК у Вільні (1921—22 гг.). Выкладчык Віленскай беларускай гімназіі (1920—22 гг.). Дырэктар Беларускай гімназіі ў Дзвінску (Латвія, 1922—24 гг.). У БССР прыехаў з Прагі. Навуковы супрацоўнік БелАН, аўтар нарысаў і артыкулаў з гісторыі Беларусі.

**Язэп Васілевіч.** Сябра ЦК Беларускай Народнай Грамады, сябра Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый і партый і Вялікай Беларускай Рады ў 1917 годзе. Дырэктар Белпедтэхнікума ў Менску (1920—24 гг.), дырэктар Віцебскага філіяла Беларускага дзяржаўнага музея (ад 1924 г.).

**Язэп Сушынскі.** Адзін з ініцыятараў і актыўных удзельнікаў (разам з Б. Тарашкевічам, А. Грыневічам, Р. Зямкевічам і інш.) беларускага студэнцкага руху ў Пецярбургу ў 1912—15 гадах. Старшыня Бюро Беларускай Народнай Партыі Сацыялістаў у 1917—18 гадах. Сябра Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый і партый і Вялікай Беларускай Рады ў 1917 годзе. Выкладчык хіміі ў Менскім Белпедтэхнікуме.

**Радкевіч,** былы камандзір 1-га Менскага Беларускага палка БНР, арганізаванага ў канцы лютага 1918 г. У часе арышту — дырэктар І Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Менску.

Выдатны акцёр і рэжысёр 1-га Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Менску **Фларыян Ждановіч.** Адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра (1907—13 гг.), старшыня «Першага таварыства беларускае драмы і камедыі» (1917—20 гг.). 19—25 лютага 1918 г. для ўтрымання парадку ў сталіцы БНР разам з камендантам Менска палк. К. Езавітавым арганізаваў Беларускую Нацыянальную Гвардыю і быў ейным начальнікам.

## Дзяржаўна-палітычныя дзеячы БССР (нацыянал-камуністы)

**Язэп Дыла.** Адзін з кіраўнікоў БСГ. Сябра ЦБ Беларускіх секцый РКП(б) у 1918—19 гг. і адзін з ініцыятараў і творцаў БССР. Наркам працы 1-га Урада БССР у 1919 г. Сябра ЦВК БССР (1921—24 гг.). Старшыня праўлення Беларускага цэнтральнага саюза спажывецкіх таварыстваў (1921—23 гг.), старшыня Дзяржплана БССР (1923—24 гг.). Дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства Інбелкульта, заступнік загадчыка Белдзяржкіно (1928—29 гг.). Гісторык і пісьменнік-драматург (Назар Бываеўскі).

**Антон Баліцкі.** Старшыня Беларускай Нацыянальнай Рады ў Адэсе ў 1918—19 гг. Заступнік наркама асветы БССР у 1921—26 гг. і наркам у 1926—29 гг. Сябра ЦВК БССР. Арыштаваны ў Гомелі, куды па звальненні яго із становішча наркама ён быў прызначаны на загадчыка Акруговага аддзела народнае асветы.

**Змітро Прышчэпаў.** Былы настаўнік, эсэр. Кіраўнік антысавецкага паўстання ў Сенненскім пав. Віцебскай губ. у жнівені 1918 г. Наркам земляробства БССР у 1924—29 гг. Сябра ЦВК БССР і ЦК КП(б)Б.

**Алесь Адамовіч.** Старшыня Акруговага Выканаўчага Камітэта Калінінскай (Клімавіцкай) акругі ў 1924—26 гг. Загадчык Аддзела друку ЦК КП(б)Б. Перад арыштам — заступнік наркама земляробства БССР.

Др. **Янка Цьвікевіч,** брат Аляксандра. Беларускі журналіст. Старшыня Беларускага Чырвонага Крыжа. Сябра Інбелкульта.

**Пятро Ілічонак.** Дыпламат, прадстаўнік БССР у савецкай амбасадзе ў Польшчы.

*(Працяг будзе).*



# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

*Працяг. Пачатак у №№ 24—29.*

## Хто такі Кірыла Тураўскі?

**Кірыла Тураўскі нарадзіўся на пачатку XII стагоддзя ў Тураве — адным з найбуйнейшых культурных цэнтраў старажытнай Беларусі — у заможнай сям'і. Дасягнуўшы паўналецця, аддаліўся ў адзін з тураўскіх манастыроў, відаць, святога Міколы, і неўзабаве стаў яго парахіяльным святаром. Здольны да кніжнай справы, ён гэтым часам пачаў пісаць малітвы (цыкл на ўсю сядміцу) і творы пра манаства («Слова ўказанне, адкуль жыццё ў людзях бязжэннае», «Аб чыне чарнарызца»). Калі ў 1148 годзе кіеўскім мітрапалітам стаў Клім Смаляціч — ідэйны апанент Кірылы і прыхільнік самастойнасці кіеўскай метраполіі, Кірыла вымушаны быў пакінуць манастыр; у гэтым часе ён замыкаецца ў манастырскай вежы — «стаўпе», учыняючы подзвіг стоўпніцтва.**

**Пасля таго як Клім склаў абавязкі мітрапаліта, тураўскія месцічы і князь Юрый запрашаюць Кірылу на епіскапскую кафедру. У гэты перыяд Кірыла напісаў шэраг пропаведзяў на святы Веліконага і Пяцідзесятнага цыклаў, а таксама іншыя казані на хрысціянска-этычныя тэмы, асуджаючы паганства. У канцы 60-х гадоў Кірыла выступіў супраць «смуты» суздальскага ігумена, «ерэтыка» (арыяніна) Фядорца. Магчыма, да гэтага часу належыць ягоная прыпавесць «Пра душу і цела», а таксама «Слова на Сабор 318 святых айцоў».**

**На схіле веку Кірыла пакінуў епіскапскую кафедру і пайшоў у Барысаглебскі манастыр, дзе працягваў літаратурную дзейнасць. Там ён напісаў пасланні да кіева-пячорскага ігумена Васіля. Памёр ён пасля 1184 года.**

**Хаця пра Тураўскага Залатаслова (як называлі яго сучаснікі) нам вядома няшмат, затое да нас дайшла амаль неверагодная для аўтара XII стагоддзя колькасць ягоных твораў — пропаведзяў, прыпавесцяў, малітваў, павучанняў, канонаў. Яны адлюстроўваюць натуральнае чалавечае захапленне хараством прыроды, вызначаюцца багатай паэтычнай вобразнасцю, узнёсласцю. Вялікі гуманіст старажытнасці Кірыла Тураўскі — сімвал таленту нашага народа, яркае сведчанне глыбіні каранёў нашае культуры.**

**Аляксей МЕЛЬНІКАЎ.**

## Хто такі Клім Смаляціч?

Клім Смаляціч нарадзіўся на пачатку XII стагоддзя ў Смаленску. У нашу гісторыю ён увайшоў як выдатны пісьменнік, філосаф і царкоўны дзеяч. Ёсць звесткі, што адукацыю Клім атрымаў у Канстанцінопалі. Пэўны час быў манахам Зарубскага манастыра, што пад Кіевам. У 1148 годзе пры падтрымцы князя Ізяслава ўзышоў на пасаду мітрапаліта, якую займаў да 1155 года. Ён падтрымліваў ідэю моцнай Кіеўскай мітраполіі, незалежнай ад канстанцінопальскага патрыярха.

Са спадчыны Кліма да нашага часу дайшоў, на жаль, толькі адзін твор — «Пасланне прасвітару Хаме», які вызначаецца жывым, эмацыянальным выкладам думак, насычаны прыпавесцямі, адметнымі каментарамі Біблії.

Клім быў адным з найадукаванейшых людзей свайго часу. Ён выдатна ведаў антычную культуру, творы Гамэра, Арыстоцеля, Платона, меў глыбокія веды ў багаслоўскай — грэцкай і рымскай — літаратуры. Летапісец назваў яго кніжнікам і філосафам, якіх не было дагэтуль у нашай зямлі.

Таленавіты пісьменнік і педагог, Клім стаў заснавальнікам цэлай літаратурнай школы. Сярод яго вучняў і паслядоўнікаў — выдатны красамоўца і мастак-іканапісец Аўрам Смаленскі, аўтар шматлікіх духоўных словаў і павучанняў.

**Аляксей МЕЛЬНІКАЎ.**

## Як адбіваліся нашыя продкі ад крыжацкае навалы?

XIII стагоддзе сталася часам сур'ёзных выпрабаванняў для многіх еўрапейскіх народаў і дзяржаў. На славянскія землі з поўдня абрынуліся незлічоныя орды стэпавікоў, а з захаду распачалі экспансію крыжакі.

Гэта былі рыцары з усёй Заходняй Еўропы, якія пасля няўдалых паходаў у Палесціну (з мэтай «вызвалення Божай Дамавіны») імкнуліся захапіць новыя землі. Адным з першых прыняло на сябе іх удар балцкае племя прусаў. І было вынішчана, а рэшта — апямечана. Імкнучыся адсекчы Полацкае княства ад мора, у 1201 годзе крыжакі ля вусця Дзвіны заснавалі горад Рыгу (дарэчы, паводле В. Ластоўскага, *рыга*, або *рыгво*, на старабеларускай мове азначае *вусце ракі*). З такго часу пачаўся іх ціск на Полацкую зямлю і іншыя старажыт набеларускія землі. У 1208 годзе яны захапілі полацкі горад Кукенойс — уладанне князя Вячкі, у 1209 — Герсіку, падыходзілі пад сцены Полацка. У адказ полацкі князь Уладзімір знішчыў іхныя ўмацаванні пад Рыгаю і Гольмам. Разам з наўгародцамі палачане білі крыжакоў на Няве ў 1240 годзе, а затым на Чудскім возеры ў 1242 годзе.

Гэтаксама і валадары новай беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага — ад Міндоўга да Вітаўта мусілі змагацца з крыжакамі. Ледзь не штогод на працягу амаль трох стагоддзяў спатыкаліся ў бітвах беларускія і крыжацкія аддзелы. Напрыклад, толькі ў часы княжання Альгерда (1341—1377) налічваецца блізу сотні набегаў крыжакоў на Беларусь і трыццаці паходаў беларускага войска ў адказ. У некаторых паходах нашае войска налічвала да 30 тысяч вояў.

Асабліваймужнасцю і ваярскім майстэрствам вылучыўся князь Давыд Гарадзенскі. Шмат гадоў ён паспяхова адбіваў напады і наводзіў жах на крыжакоў і іх памагатых. У 1314 годзе, калі немцы напалі на Новагародак, Давыд з невялікім войскам падпільнаваў іх і ледзь не палову перабіў, захапіўшы паўтары тысячы коней і нарабаванае дабро. Прайшоўшы крыжацкім шляхам ад Новагародка ў адваротным накірунку, гарадзенскі князь знішчыў усе варожыя базы. Тым самым адступленне недабітых рабаўнікоў ператварылася ў панічныя ўцёкі. У 1319 годзе Давыд Гарадзенскі з 800 вершнікамі ўварваўся ў Прусію, захапіў некалькі славутых рыцараў-камтураў разам з іх маёнтком. Неаднойчы ён хадзіў на дапамогу Пскову. У 1322 годзе разам з псковічамі Давыд разбіў вялікае нямецкае войска. Было знішчана пяць тысяч крыжакоў. Падчас далёкіх паходаў Давыд Гарадзенскі вёў з сабою параўнальна невялікія аддзелы. Так, у паходзе на Брандэнбург у 1326 годзе ўдзельнічалі 1200 чалавек. Гарадзенцы дайшлі да Франкфурта-на-Одэры. Не могучы перамагчы князя на пабаявішчы, крыжакі нанялі польскага воя Анджэя, які па-здрадніцку забіў Давыда Гарадзенскага нажом у спіну.

У 1410 годзе аб'яднанае войска Вялікага Княства і Польскага Каралеўства дало рашучы бой крыжакам пад Грунвальдам. Гэта была найвялікшая бітва ў тагачаснай Еўропе, дзе ў міжбоі сустрэлася блізу 80 тысяч чалавек. Ордэн быў разбіты ўшчэнт. Загінуў і крыжацкі магістр, камтуры, увесь цвет рыцарскага войска. Хоць пэўны час Ордэн яшчэ існаваў, толькі аднавіць былую моц крыжакі ўжо не здолелі. З гэтага часу знікла пагроза з іх боку для земляў усяе Усходняй Еўропы.

*Працяг будзе.*




* * *

**Маладзечанцы і госці горада цяпер не здзіўляюцца, калі тэлефаністкі нашага горада, якія абслугоўваюць даведачныя нумары 07, 08, 09, інфармуюць іх на роднай мове. У гэтым заслуга суполкі ТБМ РВС і яго кіраўніка Л. М. Валатовіча.**

**АЎТАСТАЯНКА ДЛЯ ДУХОЎНЫХ АЙЦОЎ**

**У Віцебску на вуліцы Шубіна, 2 паспяхова дзейнічае аўтастаянка. Яна размяшчаецца за мастацкай агароджай Грынітарскага касцёла, дзе цяпер знаходзіцца Свята-Пакроўская царква. Здаецца, што месца ля храма — не самае лепшае для аўтастаянкі. Але дзе ж тады так зручна прытуляцца шыкоўныя «вольвы» і «мерседэсы» праваслаўных духоўных айцоў?**

**Міхась ПАЎЛАЎ.**

**ПЛЁН МЕЛІЯРАЦЫІ**

**Цяпер мала хто сумняваецца, што меліярацыя нам адгукнулася і адгукнецца яшчэ неаднойчы рэзкім пагаршэннем экалагічнай сітуацыі. Вось і зараз, як і мінулым летам, на ўсёй тэрыторыі Беларусі спынена суднаходства, бо нашы рэкі абмялелі. Сахара...**

*Культура мовы*

# Чысціня адзення

**Працяг. Пачатак у №№ 28, 29.**

ПРА — ПРАЗ. **У гаворках гэтыя прыназоўнікі часам могуць выступаць адзін замест другога, а ў літаратурнай мове іх ужыванне нармалізавалася. Пры дзеяслове са значэннем 'гаварыць, думаць' і блізкіх да іх, а таксама назоўніках адпаведнай семантыкі для перадачы аб'ектных адносін ужываецца прыназоўнік *пра* з вінавальным склонам *імя*. Таму фраза *яны прапаноўвалі свой тавар — манархічную брашурку праз Саюз рускага народа* з'яўляецца двухсэнсоўнай. Толькі шырокі кантэкст паказвае, што тут брашура *пра* Саюз. Гэтак жа пры перадачы прычынных адносін замяняць прыназоўнік *з-за* + родны склон назоўніка на прыназоўнік *праз* з вінавальным склонам недапушчальна, як маем у наступнай фразе: *Канфлікт паміж Жыгімонтам III і Л. Сапегам праз віленскае біскупства цікавы яшчэ адной акалічнасцю.***

РАЗБІВАЦЬ **не варта, калі справа ідзе пра стварэнне: *Сіняя палатка з'явілася сёння на Плошчы Незалежнасці ў Менску. Яе разбілі бастуючыя шахцёры.* А на самай справе яны *паставілі* палатку, а не разбурылі яе. Беларусы таксама не *разбіваюць садоў*, а *плануюць* і *садзяць сады.* У гэтым вінаваты і нашы слоўнікі, якія, увёўшы гэтыя звароты, не ўзбагацілі беларускую літаратурную мову, а затуманілі непатрэбным амонімам сэнс дзеяслова *разбіць*.**

РАТАВАЦЬ: ***Яны сапраўды крыкам крычаць, не бачачы змен да лепшага (за якія нібыта ратуе сама аўтар).* І хоць тут пазначаны націск, гэта не ратуе аўтара фразы, бо ён паленаваўся заглянуць у перакладныя слоўнікі, дзе расійскае слова *ратовать* прапаноўваецца, у залежнасці ад кантэксту, перакладваць па-беларуску *змагацца, выступаць, дамагацца.***

СПАТЫКАЦЦА (аб што ці з кім): ***Спатыкаліся крытыкі. У лютым адбыўся семінар маладых беларускіх тэатральных крытыкаў.* Спачатку нават незразумела, што адбылося з крытыкамі. А вінавата зноў жа аманімічнасць формы дзеяслова незакончанага трывання. Калі ў закончаным трыванні маем неаднолькавую форму (*спаткацца* з кім — *спаткнуцца* аб што, на чым), то ў незакончаным — формы супадаюць (*спатыкацца).* Таму пры выбары сродку для перадачы думкі варта не грэбаваць беларускім дзеясловам *сустракацца. Сустракаліся крытыкі* было б зразумела з самага пачатку.**

ТАПІЦЦА. **Печ не можа *тапіцца,* зразумела, нават у час паводкі. Таму фраза *палаюць у прыполе перад печкай, якая топіцца* з пункту погляду нормы беларускай літаратурнай мовы з'яўляецца бессэнсоўнай. Такога ўжывання слова *тапіць* не дапускаюць і нашы перакладныя слоўнікі, якія перакладваюць расійскае слова *топить* у гэтым значэнні на беларускае *паліць: топить печь — паліць у печы, печь топится — у печы паліцца.***

УЛАДНЫ — УЛАСНЫ. **Першае слова ў беларускай мове мае агульны корань са словам *улада*, а другое — з *уласнасць.* Таму перакладваць расійскае *полновластный* на *поўнаўласны* нельга. А на практыцы сустракаем: *поўнаўласныя мясцовыя Саветы.* Па-беларуску — *поўнаўладныя.***

У КАТОРЫ (ЯКІ) РАЗ. **Гэтае спалучэнне вельмі часта сустракаецца ў нашай моўнай практыцы: *Біржа «Белая Русь» у другі раз удзельнічала ў таргах; У 74-ы раз... людзі адзначаюць свята.* Прычым такое, не ўласцівае беларускай мове, ужыванне прыназоўніка *у* ідзе адначасова з правільным, беспрыназоўнікавым спалучэннем: *Толькі я баюся, Максіме, каб (які ўжо раз!) яно не стала прыгожай мыльнай бурбалкай.***

*Працяг будзе.*

# Як людзі кажуць

Нядаўна па радыё перадавалі інтэрв'ю журналісткі з маладым жывёлаводам, і журналістка спытала:

— Каго з жывёлы вы любіце, акрамя кароў?

— Цялят.

— А сабак, кошак?

— Ну, катоў люблю.

Жывая народная мова паправіла штучную.

Цяпер усё часцей можна пачуць па радыё, прачытаць у газеце ці нават у кнізе пісьменніка: «каля пад'езда круцілася сабака», «ад плота клалася цень», «у вочы ляцела пыль» і г.д. Я думаю, гэтыя памылкі робяцца ад таго, што ў нашай літаратурнай мове недакладна растлумачана значэнне слоў «кот — кошка», «каціны — кашачы, кашэчы». Усе слоўнікі, якія мне ўдалося перагледзець, даюць кальку з расійскай: «дарогу перабегла кошка», «сямейства кашэчых, кашачых», «кашэчы канцэрт», «гульня ў кошкі-мышкі», «кошкі на душы скрабуць» (дарэчы, чаму не «шкрабуць»?), «ведае кошка, чыё мяса з'ела», казка «Кошкін дом» і г.д.; акрамя таго, у слоўніках замацавана дыялектнае слова «котка» жаночага роду. Адсюль, калі мы ведаем, што правільна будзе пісаць і гаварыць «дарогу перабегла кошка, котка», дык тады чаму б і не «перабегла сабака», «не паляцела пыль» і не «легла цень»?

У жывой народнай беларускай мове слова «кошка» ўжываецца толькі ў адным значэнні — калі падкрэсліваецца, што гэта менавіта кошка, а не кот. Усе іншыя словазлучэнні перадаюцца ў мужчынскім родзе: зборнае значэнне — *каты*, выразы — *каціны бацька* (чалавек, які любіць гуляцца з катамі); *ведае (знае) кот, чыё мяса з'еў; як кот наплакаў; кот дарогу перайшоў; каціны канцэрт* (ва ўспамінах П. Мядзёлкі — «...у касцёле сапраўды каціны канцэрт — хоць вушы затыкай»). Гульня «в кошки-мышки» па-беларуску спрадвеку звалася «квач». Мноства адпаведнікаў можна знайсці і расійскаму «кошки на душе скребут». «Кошкин дом», відаць, будзе гучаць па-беларуску, як «Кошчын дом» ці нават «Кошкі дом»...

Думаю, ва ўсіх гэтых выпадках пры напісанні і ў размове варта кіравацца не слоўнікамі, а жывой народнай мовай, якая пакуль што адна можа з'яўляцца сапраўдным эталонам.

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Апанас Фет (Афанасі Шэншын; 1820- 1892). вядомы рускі паэт, эмацыянальна і надзвычай прыгожа ўвасабляў у паэтычных радках найвышэйшыя чалавечыя пачуцці.

*Апанас ФЕТ*

## Ніколі

Прачнуўся я. Так, века гэта. — Рукі
Выцягваю й гукаю — хто б памог.
Так, прадсмяротныя я помню мукі.
Так, гэта ўсё наяве, о, мой Бог!
Без намаганняў, быццам павуціну
Сатлелую раскінуў дамавіну

І ўстаў. Я ў склепе, дзе дзвярэй няма.
Снег на ўваходзе. Як тут сумнявацца? —
Там, на зямлі, свята зімы. Зіма.
Хутчэй дамоў! Вось будуць там здзіўляцца!
Знаёмы парк, з дарогі нельга збіцца, —
А як паспеў увесь перамяніцца!

Бягу па гурбах. Мёртвы лес тырчыць
Застылым голлем. Знак жыцця, ну, дзе ты?
Каб след хоць альбо гук! Усё маўчыць,
Бы ў царстве смерці казачнага свету.
А вось і дом. Ён у зямлю ўрастае. —
І рукі апусціліся ў адчаі.

Спіць селішча пад коўдрай снегавой:
Ні сцежачкі на стэпавай зямліцы.
Ну, так і ёсць — над дальняю гарой
Пазнаў царкву я з друзлаю званіцай.

Як прывід нейкі, ў пыле снегавым
Яна тырчыць, самотная зусім.

Нідзе ні птаха. Зведаўшы тугу,
Я зразумеў: зямля даўно астыла
І вымерла. Каму ж я берагу
Ў грудзях дыханне? Для каго магіла
Мяне вярнула? І мая свядомасць
Навошта мне? ...Глухая невядомасць.

Куды ісці? Няма каго абняць
Там, дзе ў прасторы час людскі згубіўся.
Смерць, конавы цяжар жыцця прыняць,
Майго жыцця — апошняга! — вярніся.
А ты, застылы труп зямлі, ляці,
Нясі мой труп. Няма куды мне йсці.

## Пагаслым зоркам

Бачыць вас колькі адпушчана Богам,
Сіняга неба праніклыя вочы,
І разумець, што за вас анічога
Вышай няма ў гэтым храме ночы?

Мо ўжо няма вас, ды свеціцца цудам
Ваша святло, працінаючы морак, —
Так і па смерці ляцець вершам буду
Прывідам шчасця — да прывідаў зорак!

**Пераклад з рускай**
**Васіля ЖУКОВІЧА.**

*Чыталі?*

# «Хрысьціянская думка» — часопіс Беларускай Каталіцкай Грамады

Чарговы нумар «Хрысьціянскай думкі» адкрываецца прамовамі арцыбіскупа Менскага і Магілёўскага яго эксцэленцыі Казіміра Свёнтка падчас інаўгурацыі і ў дзень налажэння палевуша.

У рубрыцы «Святыня» распавядаецца пра Жыровіцкую Божую Маці — заступніцу беларускага народа. Чытачам прапануецца артыкул Уладзіслава Сыракомлі «Каталіцкія святыні ў Менску», які пераклала з польскай мовы Хрысціна Лялько. Алесь Бяляцкі падрыхтаваў для часопіса інтэрв'ю з Фэліксам Янушкевічам, кс. Міхаілам Сапелем і Аляксандрам Хвалеем. Язэп Янушкевіч знаёміць з гісторыяй Кальварыйскага касцёла, а Валеры Касмылёў — з каталіцкай дабрачыннасцю ў Менску. У рубрыцы «Духоўнае слова» друкуюцца «Божыя планы адносна чалавека» а. Янкі Тарасэвіча і «Песні ўзыходжання» ў вольным перакладзе Янкі Золака.

У чым можна знайсці падтрымку ў «хвіліну слабасці»? Такія хвіліны, калі душу раптоўна агортвае самота, а жыццё губляе свае колеры і сэнс, знаёмыя кожнаму. Дзе «крыніцы сілаў»? Пра «хвіліны слабасці» і «крыніцы сілаў», пра людзей слабых і моцных духам, пра адзіноту і беларускую ідэю разважае Аркадзь Смоліч у лістах да Зоські Верас. «Камяніцы і людзі. Менскі езуіцкі калегіум» — так называецца артыкул Алеся Жлуткі, што друкуецца ў рубрыцы «Абсягі культуры». Часопіс знаёміць чытачоў з урыўкам з дзённікавых запісаў а. Адама Станкевіча, дзе выразна бачны клопат, якім жыў гэты Вялікі Беларус. З 30 красавіка па 5 траўня 1990 года ў Рыме адбыўся міжнародны сімпозіум на тэму «Фарміраванне сацыяльна-культурных традыцый ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе: Беларусь, Летува, Польшча, Украіна», на якім выступіў Анатоль Грыцкевіч. Ягоны даклад друкуецца ў часопісе. Юўген Шунейка выступае з эсэ «Шлях да згоды». Змешчана заканчэнне «Апавядання пра айца Піо» Караля Вагнера ў перакладзе а. Уладзіслава Чарняўскага, а таксама вершы Дануты Бічэль-Загнетавай. «Хрысьціянскую думку» рэдагуе Вітаўт Чаропка.

В. А.

*Забаўлянкі — пазнаванкі*

*Уладзімір ПАЎЛАЎ*

## Чарнагруды дзяцел

*Чарнагруды дзяцел*
*У гнядзе ў падстрэшку*
*Кожнаму дзіцяці*
*Лушчыць па арэшку.*

— Тут некалькі памылак.
— Якія яны?
— У падстрэшках жывуць галубы, вераб'і, ластаўкі. Дзятлы свае гнёзды ладуюць высока над зямлёй у дуплах. Кормяць яны караедамі, лічынкамі насякомых, якіх шукаюць на пнях, на хворых дрэвах. Арэшкі ды шышкі лушчыць вавёрка.



## Бурштын

*Каля плоту, каля тыну*
*Вырас пышны куст*
*бурштыну.*
*Дзеці ягады збіралі*
*Ды нанізвалі каралі.*

— Бурштын — не ягадная расліна. Гэта скамянелая смала старажытных дрэў. Бурштын, або сонечны камень, знаходзяць на балтыйскім узбярэжжы, здабываюць у кар'ерах.
— Ці ёсць сонечны камень у Беларусі?
— Ёсць. Як ёсць калійная соль, нафта, золата...



## Горы, узвышшы

*Выхвалялася малая:*
*— Горы, нібы Гімалаі*
*Пад Лагойскам у бабулі...*
*А што вы пра гэта чулі?*

— Гімалаі — самая высокая горная сістэма зямлі. Там і найвышэйшая гара Джамалунгма — блізка 9 кіламетраў.
— Якія ж горы пад Лагойскам?
— Пад Лагойскам — маляўнічая частка Менскага ўзвышша. Найвышэйшая кропка яго — гара Дзяржынская, вышынёй 346 метраў. Яшчэ на Беларусі ёсць узвышшы Навагрудскае, Ашмянскае, Гарадоцкае...



## Азёры

*Ну, дык тут каторае*
*Возера Вікторыя —*
*А ці тое, што ля Мінска,*
*Ці ля Свіры блізка?*

— Каля Мінска — Заслаўскае вадасховішча. Яго зрабілі людзі. Каля пасёлка Свір — возера таго ж імя. Вікторыя — што азначае «перамога» — у Афрыцы.
— А якія азёры мае наша рэспубліка?
— Нарач, Чырвонае, Свіцязь... Каля дваццаці азёр называюцца Белымі. А ўсяго на Беларусі 10 800 азёраў.



**Увага!**

# ПОЛАЦКІЯ ЧЫТАННІ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ ЛАСТОЎСКАМУ

**Адно з галоўных дасягненняў нашага сучаснага Адраджэння — уваскрашэнне ў памяці народнай ды ўдзячным людскім шанаванні святых і светлых імёнаў людзей, у справах і думках якіх увасабляецца сумленне і гонар Радзімы. Імя Вацлава Ластоўскага сярод іх.**

**Навуковец і мастак, гісторык і пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч, пачынальнік адраджэнскага руху пачатку XX стагоддзя, ды нагул цікавы і перакананы чалавек. Расказаць аб яго жыцці і дзейнасці, вызначыць яго месца ў гістарычна-культурным жыцці Бацькаўшчыны, ацаніць яго ўплыў на сучаснае развіццё Беларусі — такія мэты ставяць перад сабою арганізатары Полацкіх чытанняў, прысвечаных 110-годдзю з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага. Праведзены яны будуць у Наваполацкім політэхнічным інстытуце 27—28 кастрычніка 1993 г. Маецца на ўвазе абмеркаваць грамадска-палітычныя погляды Ластоўскага часоў БСГ, яго гістарычную канцэпцыю, ролю ў гісторыі БНР, асаблівасці літаратурнай творчасці. На нашу думку, было б карысна і цікава ацаніць В. Ластоўскага як ідэолага Адраджэння і вызначыць сувязь яго спадчыны з праблемамі будаўніцтва незалежнай Беларусі на сучасным этапе.**

**Тэзісы (да 3 старонак машынапіснага тэксту, надрукаванага праз 1,5 інтэрвала) просім дасылаць да 15 верасня. Звяніце нам па тэлефоне альбо пішыце на адрас: 211440, г. Наваполацк, вул. Блахіна, 29, Політэхнічны інстытут, кафедра сацыяльна-гуманітарных навук, аргкамітэт канферэнцыі.**

**Р. ГРУДНІЦКІ,**
сябра аргкамітэта.

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**БАЛГАРСКАЯ МОВА** займае ў славянскім свеце асаблівае становішча. Перш за ўсё гэтая мова аналітычная: сувязі паміж словамі ў сказе выяўляюцца не столькі флексіямі, ці канчаткамі, слоў, колькі парадкам слоў і службовымі словамі (прыназоўнікамі, злучнікамі, часціцамі); назоўнікі, прыметнікі і лічэбнікі ў балгарскай мове не зменяюцца па склонах. Параўнайце беларускі выраз *перадаць рэдактару газеты* і пераклад яго на балгарскую мову: *да предаде на редактора на вестника.*

Другая адметнасць балгарскай мовы — катэгорыя пэўнасці імені. Назоўнікі могуць ужывацца ў так званай агульнай форме: *жена, град, ухо*, ці ў форме з артыклем, які далучаецца ў канцы слова: *жената* («гэтая жанчына»), *ухото* («гэтае вуха»), *градът* («гэты горад»).

Дзеяслоў у балгарскай мове мае 9 часоў: цяперашні ды формы 4 будучых і 4 прошлых часоў, у тым ліку і «прошлы папярэдні час» — плюсквамперфект, адпаведнік якому ёсць у беларускай мове. Параўнайце беларускі сказ *Маці была паехала да дачкі, але цяпер ужо зноў вярнулася ў вёску* і балгарскі пераклад: *Майката беше се преместила при дъщеря си, но сега пак се върна в селото.*

Цікава, што некаторыя моўныя асаблівасці, агульныя для балгарскай і беларускай моў, адсутнічаюць у расійскай ці наогул у іншых славянскіх мовах. Вось, прыкладам, словы: *чэрвень — чырвоны, говедо — гавяда, глог — глог, жужел — жужаль, окленя се — абкляпацца.* Тое самае датычыцца фанетычных, марфалагічных ды іншых характарыстык. У абедзвюх мовах ёсць спецыфічныя зычныя **дж** і **дз**; гук **ц** цвёрды процістаўлены **ц** мякkаму, шырока выкарыстоўваецца клічная форма назоўнікаў: *Иване* ад *Иван, другарю* ад *другар* (таварыш).

**Паводле Б. Ю. Нормана.**

## Беларускі народны каляндар

# «Спелы колас не жджэць»

*Жнівень* — апошні месяц лета. Яго назва паходзіць ад слова «жніво». А жніва людзі заўсёды чакалі, звязваючы з ім свае спадзяванні на добры ўраджай і небядную зіму. Прыказка кажа: «Не пакланюся багачу, як свой намалачу».

На жнівень прыпадаюць святы народнага календара, якія пазней аб'ядналіся з рэлігійнымі. Гэта Ілля, Спас, Прачыстая. За Зажынкамі і Дажынкамі даты не замацаваліся. У залежнасці ад мясцовасці іх святкуюць дзе раней, а дзе пазней. Адносіны народа да плёну сваёй працы ў жніво відны хоць бы з такіх выслоўяў: «Ніўка, ніўка, аддай маю сілку», «Дарагі тавар на зямлі расце», «Жыта і пшаніца то Богава пашніца». З такіх выслоўяў бачна і ацэнка неруплівых, нядбайных работнікаў: «Як жыта палавее, у гультая сэрца млее», «Хто ў жніво халадку чакае, той галадае», «Сама сябе жнейка б'ецьь, калі нячыста жнець», «У добрага гаспадара і саломінка не прападзе».

Зажынкі і Дажынкі не звязаны з царкоўнымі святамі і грунтуюцца выключна на старадаўніх народных абрадах, песнях і танцах. Даследчыкі адзначаюць у іх элементы анімістычнага светапогляду, земляробчай магіі, заклінанняў. Для Зажынак характэрны абрад першага снапа. У святочна прыбранай хаце на белы абрус клалі хлеб-соль і ставілі першы сноп жыта са словамі: «Стаўлю сноп на сто коп, на тысячу мерак». На Дажынкі ў хату прыносілі апошні сноп жыта, упрыгожаны кветкамі і стужкамі, а ў полі спраўлялі абрад «Завіванне барады».

Бараду рабілі са жменькі няжжатых каласоў. Іх скручвалі разам з хлебам-соллю і прыціскалі да зямлі. Лічылася, што зерневыя духі жытнёвага поля застаюцца зімаваць у няжатай «барадзе». Яны і забяспечаць у наступным годзе добры ўраджай. У дзень Зажынак і Дажынак рыхтавалася абрадавая вячэра, на якой «чарачкі налівалі, гасцей частавалі віном зелянеўнькім, мядком саладзенькім».

Цікавая з'ява прыроды ў жніўні — «Рабінавая (Вераб'іная) ноч» — да жудасці злавесная і навальнічная. Яе пара — ад Іллі да Малой Прачыстай (21 верасня).

1 (нядзеля). **Пр.** *Макрына.* Дождж на Макрыну — да дажджлівай восені. У народзе казалі: «Глядзі восень па Макрыне».

**Ун.** *Дзевятая нядзеля пасля Сёмухі. Працэсія Пачэснага Крыжа.* Пачатак пятнаццацідзённага Успенскага посту.

2 (панядзелак). **Кат.** *Найсвяцейшая Марыя — валадарка анёлаў* (набажэнства).

**Пр.** *Ілля.* Свята ў гонар старазапаветнага прарока. Паводле Бібліі, ён тварыў цуды і жывым узнёсся ў неба на вогненнай калясніцы.

У славянскай міфалогіі Ілля-прарок выступае як персанаж, звязаны з летам, громам, дажджом, урадлівасцю, ураджаем. З усталяваннем хрысціянства вобраз Іллі набывае рысы язычніцкага бога грому і маланкі Перуна. Таму ў беларусаў, палякаў і іншых народаў слова «пярун» азначае «гром». Існавала ўяўленне: гром грыміць — Ілля-прарок раз'язджае па небе ў вогненнай калясніцы. Характэрна пазнейшая трансфармацыя вобраза ў асілка Іллю, а таксама абрады на Іллін дзень.

У беларускім фальклоры шмат песень і прыказак пра гэтага святога. Ён апякун селяніна, прыходзіць да яго з новым хлебам, з новым ураджаем («На святога Гальяша з новых круп каша», «На Іллю на лапату палью»), адганяе нячыстую сілу («Ілля чарцей палюе», «Ілля ваюе з чарцямі, іх б'е перунамі»).

У народным календары свята азначае блізкі канец лета і прыход восені: «Ілля жніво пачынае, а лета канчае», «Ілля на полі копы лічыць», «На Іллю да абеду лета, а пасля абеду восень». З надыходам Іллі надвор'е становіцца дажджлівым («Святы Ілля нарабіў гнілля», «Пасля Іллі вада з зямлі»), дні кароткімі («Пятро і Павел час убавіў, Ілля-прарок два ўвалок»), вада ў рацэ сцюдзёнай («Да Іллі мужык купаецца, па Іллі з вадой прашчаецца»). Прыкметы: калі на Іллю пагода, то восень будзе сухая; калі на Іллю няма дажджу, то пажары будуць.

4 (серада). **Пр.** *Дзень Марыі Магдалены.* Паводле хрысціянскага падання, гэта жанчына родам з Галілеі была паслядоўніцай Ісуса Хрыста. Збаўленая ім ад апантанасці, прысутнічала на Галгофе ў час пакутлівай смерці сына Божага на крыжы.

6 (пятніца). **Кат.** *Ператварэнне Панскае;* **Ун.** *Перамяненне Госпада Бога і збаўцы нашага Ісуса Хрыста.*

Паводле слоў евангелістаў Мацвея і Лукі, свята бярэ пачатак ад падзеі, якая адбылася на гары Фавор, куды ўзышоў Хрыстос памаліцца. Калі ён маліўся, выгляд яго змяніўся: вопратка стала светлай, а вакол галавы ўзнікла ззянне. З'явіліся пракоркі Ілля і Майсей і пачалі з Ісусам гаворку пра тое, што мае з ім адбыцца ў Іерусаліме.

**Пр.** *Барыс і Глеб.* Дзень гэтых святых, як бачым, адзначаецца двойчы на год. Калі ў маі «Барыс і Глеб сеюць хлеб», «Барыс ляды паліць, зямлю грэець, ячмень сеець», то ў жніўні іх імёны звязваюцца ўжо з іншай рэальнасцю сялянскага жыцця: «Барыс і Глеб: паспеў хлеб», «На Глеба і Барыса хлеба нажарыся і за раллю бярыся».

У народзе асцерагаліся ў гэты дзень працаваць, бо лічылася, што Бог пакарае: згарыць хата ці пуня з новым ураджаем, стагі на пакошы, захварэе жывёліна або сам гаспадар пакалечыцца («На Барыса за серп і касу не бярыся»). У гэты дзень апошні раз купаюцца.

7 (субота). **Пр.** *Ганна.* Пара жніва («Святы Барыс снапы зносіць, а святая Ганна дамоў звозіць», «Барыс з Ганнай не гуляюць, святому Іллі памагаюць»). Прыкмета: халодная раніца на Ганну да халоднай зімы.

8 (нядзеля). **Ун.** *Дзесятая нядзеля пасля Сёмухі.*

9 (панядзелак). **Ун.** *Мацвей-апостал.*

10 (аўторак). **Кат.** *Лаўрын (Ваўжынец).* «На Лаўрына спяшай да млына».

11 (серада). **Пр.** *Калінаў дзень* (імяніны Калініка). Сеялі жыта, плялі вянкі.

12 (чацвер). **Пр.** *Сіла* («Хто на Сілу жыта пасее, у таго на хлеб надзея»).

14 (субота). **Пр.** *Вынас Пачэснага Крыжа Гасподняга. Дзень сямі пакутнікаў Макавееў. Спас мядовы або Макаўе.* Пачатак Успенскага посту.

*Спас* — старажытнае свята земляробчага календара, якое адзначалася паміж летнім і асеннім цыкламі работ, калі выспявала садавіна і агародніна («Прыйшоў Спас — на ўсё час»). Адзначаўся ў жніўні тройчы па новым календары: 14-га — *Спас мядовы,* або *Першы Спас;* 19-га — *Спас яблычны,* або *Вялікі Спас;* 29-га — *Спас жытні,* або *Малы Спас.* На Першага Спаса бортнікі падглядвалі пчол, а ў храмах асвячаўся мак і іншая агародніна. Спас яблычны лічыўся самым значным і адзначаўся ўсенародна. У гэты дзень асвячалі яблыкі і насенне. Здымалася забарона есці садавіну тым, у каго памерла дзіця. Трэці Спас азначаў канец жніва і пачатак сяўбы азімага жыта. У храмах асвячалася зерне для засевак. «На Трэцім Спасе трымай рукавіцы ў запасе»,— зазначае народная мудрасць. Даўней на Спасы ладзіліся багатыя кірмашы, дзе было ўдосталь садавіны, агародніны і мёду. У некаторых мясцовасцях на Спаса пачыналі сяўбу азімых, капалі бульбу. У прыродзе відавочны пераход да восені: пчолы перастаюць насіць мёд, буслы, шпакі і гракі рыхтуюцца ў вырай. Пачынаецца ранняе «бабіна лета» («Прыйшоў Спас, і лета ад нас»).

Да Першага Спаса царква прымеркавала Дзень пакутнікаў Макавееў, да Вялікага Спаса — святаПератварэння Госпада Бога, надаўшы народным рытуалам рэлігійнае значэнне.

15 (нядзеля). **Кат.** *Небаўзяцце найсвяцейшай панны Марыі;* **Ун.** *Успенне.* Так пазначаны ў рыма-каталіцкім і грэка-каталіцкім календарах дзень смерці (узяцце ў неба) Божай Маці. Беларуская народная назва свята — *Прачыстая («Прыйшла Прачыстая — стала поле чыстае»).* У храмах асвячаюцца зёлкі і кветкі.

*16 (панядзелак).* **Пр.** *Антон-віграпей.* Моцныя вятры ў гэты дзень абяцаюць снежную зіму. У народзе казалі: «Які Антон, такі і кастрычнік».

**Кат.** *Святы Рох, апякун Менска.*

19 (чацвер). **Пр.** *Праабражэнне (Ператварэнне, Перамяненне) Гасподняе. Вялікі Спас.*

21 (субота). **Ун.** *Аўрам Смаленскі. Юда Тадэй* (Тадзей), апостал.

22 (нядзеля). **Пр. Мацвей.** Завяршаюцца летнія работы ў полі («пасля Мацвея мужык на полі не пацее»).

**Ун.** *Дванаццатая нядзеля пасля Сёмухі.*

23 (панядзелак). **Пр.** *Лаўрэн,* або *Лаўрын.* Прыкмета: спакойная апоўдні вада ў рацэ абяцае пагодлівую восень і зіму.

25 (серада). **Ун.** *Пераняссенне мошчаў Апостала Баўтрамея.*

27 (пятніца). **Пр.** *Міхей.* Прыкмета: лёгкі вецер у гэты дзень звястуе пагодлівую восень, моцны — дажджлівую і халодную.

28 (субота). **Пр.** *Успенне Прасвятой Багародзіцы (Небаўзяцце). Прачыстая.* У народным календары значыцца як свята ўраджаю. Поўная назва *Першая (Вялікая) Прачыстая* — у адрозненне ад *Другой (Малой) Прачыстай,* вядомай яшчэ пад назвай *«Багач»* (святкуецца ў верасні). Да апошняга прымеркавана царкоўнае свята *Нараджэння Божай Маці.* Іншыя яго назвы: *Успленне, Зельная, Спажа («Спажа — хлеба дзяжа»).*

29 (нядзеля). **Пр.** *Спас жытні,* або *Малы Спас.* Пара Дажынак.

**Ун.** *Адсячэнне галавы Яна Хрысціцеля.*

31 (аўторак). **Ун.** *Палажэнне пояса Багародзіцы.*

**Пр.** *Флор і Лаўр.* Прысвятак пастухоў. У гэты дзень коні павінны былі адпачываць. Іх не путалі на пашы.

**І. К.**



**Менск. 8 ліпеня. Першы з'езд беларусаў свету. У парку імя Янкі Купалы адбылося свята паэзіі «Палымянае слова Купалы».**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ. БЕЛІНФАРМ.**

## *Афарызмы*

***Уладзімір ЕВІЧАВІЧ-ЕЎ***

**Калі праўда, што вернікаў найбольш сярод бедных, дык ці не вялікі пост надыходзіць?**

**Ластаўкі вяртаюцца з поўдня, гастарбайтэры з поўначы.**

**Ніхто не вяртаецца з захаду, а тым болей з усходу.**

**Ёсць дэмакратыя! Гномік без боязі стаў веліканy на мазоль.**

**Хто там памятае дзень у час палярнай ночы!**

**Не верылася, што настаўлены палец можа страляць. Пакуль чалавек побач з намі не ўпаў.**

**Што прывяло паэта да зняволення? Верш гісторыі ці гісторыя верша.**

**Не верце маладым! І яны пастарэюць.**

**Мэта ўздымае сабе помнікі і без сродкаў.**

**Адны пішуць па дыктату. Другія па дыктатару.**

**Я не бачыў, ты не бачыў... І так ва ўсе часы.**

**Нават Шэкспір не сказаў: усё гнілое ў дзяржаве Ангельскай.**

**«Гэта не той камень» — сказаў Сізіф на вяршыні.**

**Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.**


Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Змiцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 281.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 7064 паасобнікі. Падпісана ў друк 23.07.1993 г. у 15 гадзін.